© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020


# Ніва

ТЫДНЁВІК ГП БГКТ

№ 1 (880) ГОД XVIII БЕЛАСТОК 7 СТУДЗЕНЯ 1973 г. ЦАНА 60 гр.





## Першаму Сакратару ЦК ПАРП ЭДВАРДУ ГЕРКУ — 60 гадоў



Эдвард Герэк нарадзіўся 6 студзеня 1913 года ў Паромбку, Бендзінскага павету, у шахцёрскай сям'і. Пасля смерці бацькі, які загінуў у час няшчаснага выпадку на шахце, у 1923 годзе разам з маці эміграваў у Францыю, дзе з 13-ці гадоў працаваў шахцёрам.

Шэраг гадоў Э. Герэк прымаў актыўны ўдзел у рабоце французскіх прафсаюзаў (УУКП). У 1931 годзе ўступіў у рады Французскай камуністычнай партыі. Удзельнічаў у класавых баях французскага пралетарыяту, кіраваў стачачным рухам, актыўна ўдзельнічаў у дзейнасці рабочага культурна-асветнага таварыства. У 1934 годзе за ўдзел у забастоўцы шахцёраў Э. Герэк быў арыштаваны і высланы з Францыі ў Польшчу. У 1937 годзе зноў эміграваў, на гэты раз у Бельгію, дзе таксама працаваў шахцёрам. Усяго на шахтах прапрацаваў 17 гадоў. Э. Герэк праводзіў актыўную палітычную дзейнасць у радах Камуністычнай партыі Бельгіі. У час акупацыі, знаходзячыся ў Бельгіі, удзельнічаў у руху Супраціўлення, які вёў барацьбу з гітлераўцамі.

Пасля вайны Э. Герэк прымаў удзел у арганізацыі на тэрыторыі Бельгіі Саюза польскіх патрыётаў, Польскай рабочай партыі і кіраваў дзейнасцю Нацыянальнага савета палякаў у Бельгіі, старшынёй якога быў больш як два гады.

У 1948 годзе, вярнуўшыся ў Польшчу, Э. Герэк пачаў работу ў Цэнтральным Камітэце Польскай рабочай партыі. З 1949 года працуе ў партыйным апараце на Шлёнску сакратаром Катовіцкага ваяводскага камітэта ПАРП. Заканчвае завочна вышэйшую адукацыю і атрымлівае спецыяльнасць горнага інжынера.

У 1954 годзе на II з'ездзе партыі Э. Герэк быў выбран членам ЦК ПАРП і пачаў працаваць у ЦК у якасці загадчыка аддзела цяжкай прамысловасці.

На 6-м пленуме ЦК у 1956 годзе Э. Герэк быў выбран сакратаром ЦК, на 7-м пленуме ў тым жа годзе — членам Палітбюро ЦК і з 1957 года сумяшчае гэту пасаду з абавязкамі першага сакратара Катовіцкага ваяводскага камітэта ПАРП. Пасля IV з'езду партыі, ў 1964 годзе і затым пасля V з'езду ў 1968 годзе зноў выбіраецца ў састаў Палітбюро ЦК ПАРП.

Дэпутат Сейма з 1952 года.

Узнагароджан ордэнам будаўнікоў народнай Польшчы, ордэнам Працоўнага Сцяга I-й ступені і іншымі ордэнамі.

На 7-м пленуме ЦК ПАРП 20 снежня 1970 года Эдвард Герэк выбран Першым сакратаром Цэнтральнага Камітэта Польскай аб'яднанай рабочай партыі.




## З ВЯСКОВАЙ ХАТЫ Ў ПРАФЕСАРЫ

У лёсе прафесара доктара габілітаванага Базыля Чэчугі, як у нейкім зачараваным люстэрку, знаходзіць сваё адбіццё гісторыя таго вясковага пакалення Беласточчыны, якое сваё свядомае жыццё распачынала ўжо ва ўмовах народнай улады. Людзі найбольш працавітыя, найбольш здольныя — незалежна ад матэрыяльнага становішча іх бацькоў — атрымалі спрыяльныя ўмовы для развіцця свайго таленту і творчых магчымасцей.

Такім менавіта чалавекам аказаўся Базыль Чэчуга, якому Рада Дзяржавы ПНР пад канец мінулага года прысвоіла званне прафесара Беластоцкай медыцынскай акадэміі. З гэтай нагоды папрасілі мы ў яго інтэрв'ю.

«НІВА»: Паважаны прафесар, ці захацелі б Вы супаставіць свае дзіцячыя мары аб будучыні з сённяшнім днём свайго жыцця?

ПРАФ. Б. ЧЭЧУГА: Ваша пытанне адклікае мяне ў маю родную вёску Плюцічы, што на Бельшчыне, дзе мой бацька яшчэ і цяпер гаспадарыць. І я там бываю даволі часта, каб пахадзіць сцяжынкамі дзяцінства, якія густа кружацца над рэкамі Арлянкай і Нарвай, дзе я калісьці пасвіў кароў — бацькоўскую і страбляўскіх багацеяў, дзе ад прыроды вучыўся першых урокаў маёй цяперашняй прафесіі гідрабіёлага.

Аб чым жа мог тады марыць вясковы хлапчук, якому нададатак няшчасны выпадак адабраў магчымасць выконваць цяжкую працу земляроба? Я марыў, каб стаць хаця б якім-колеч работнікам разумовай працы, бо нейкая цяга да ведаў, да навукі заўсёды запаўняла маё сэрца. Дык калі (дзякуючы народнай уладзе) тая магчымасць адкрылася, прыйшлося мне хутка папаўняць адставанні ў адукацыі. Каб жыць, я працаваў, а па вечарах вучыўся. Па два класы ў год. Такім чынам у 1951 годзе здабыў я атэстат сталасці, а ўлады далі мне магчымасць паехаць на далейшую навуку ў Савецкі Саюз, у Дзяржаўны беларускі універсітэт у Мінску...

«НІВА»: ...адкуль пасля прывезлі Вы выдатны дыплом, дапытлівасць будучага вучонага, а яшчэ і... жонку, і дачку...

ПРАФ. Б. ЧЭЧУГА: Запярэчыць не магу, бо людзі навукі даказаным фактам не пярэчаць. Але яшчэ хачу падкрэсліць, што ў маім станаўленні як работніка навукі я найбольш удзячны выдатнаму савецкаму гідрабіёлагу прафесару Грыгорыю Грыгор'евічу Вінбергу...

«НІВА»: Паважаны прафесар, Вас у Беластоку ведаюць як актыўнага грамадскага дзеяча. Асабліва заўзята змагаецеся Вы за захаванне натуральных багаццяў прыроды ў Беластоцкім ваяводстве. Як тады, паводле Вашых меркаванняў, трэба паступаць, каб не тармазіць гаспадарчага развіцця Беласточчыны і адначасова, каб не знішчаць прыроды? Ці сапраўды гэта праблема тыпу «агонь» і «вада»?



*Праф. др габ. Базыль Чэчуга, выдатны вучоны, гідрабіёлаг, аўтар амаль двухсот навуковых прац, друкаваных у краіне і за мяжой, удзельнік многіх міжнародных навуковых канферэнцый, член шматлікіх польскіх і замежных навуковых таварыстваў, ад 1963 года загадчык кафедрай біялогіі Беластоцкай медыцынскай акадэміі.*

ПРАФ. Б. ЧЭЧУГА: Перш за ўсё дазвольце звярнуць вашу увагу на тое, што «агонь» і «вада» суіснуюць ужо многія мільёны год. Агонь — гэта крыніца энергіі, а без вады няма жыцця. Сёння вучоныя ўсіх напрамкаў згодны, што жыццё пачалося ў вадзе. Малейшая жывая клетка для свайго развіцця патрабуе вады, але менавіта в а д ы, а не нейкіх сумесяў з кіслотамі ці атрутамі.

Жыццёвыя патрэбы нашага і наступных пакаленняў патрабуюць разумнай гаспадаркі багаццямі прыроды. Я вялікі энтузіяст натуральнай прыгажосці Беласточчыны, але адначасова хацеў бы свой родны кут бачыць квітнеючым багаццем і высокім дабрабытам яго жыхароў. Таму як старшыня ваяводскага праўлення Лігі аховы прыроды, як біёлаг і як чалавек-грамадзянін — прапаную разважныя кампрамісы між неабходнасцю знішчальнага ўздзеяння разбудовы прамысловасці, меліярацыі і хімізацыі сельскай гаспадаркі і патрэбай захавання натуральнага стану прыроды, хаця б яшчэ такога, які датрываў да нашых дзён. У нас на Беласточчыне знаходзяцца найбольш вартасныя (з якога боку мы б на іх не глядзелі) вадасховішчы, лясы і сенажаці. Чалавек тут яшчэ не паспеў іх знішчыць. Гэта апінія не толькі мая. Калі — пасля сельскай гаспадаркі і прамысловасці — турызм мае быць трэцяй асноўнай галіной нашай гаспадаркі, дык дбайма пра тое, каб было ў нас чым прывабіць турыстаў. Мы вымушаны захоўваць натуральную прыгажосць... не, не ўсяго, але неабходна стварыць раёны цішыні і спакою, вось, для прыкладу, у паўночнай Сувальшчыне, на Аўгустоўшчыне, лес непадалёк буйнейшых гарадоў, у паўднёва-ўсходніх раёнах Беласточчыны перш за ўсё асаблівая ўвага належыцца такой еўрапейскай жамчужыне прыроды, якой з'яўляецца Белавежская пушча, трэба дбаць пра Кнышынска-беластоцкую пушчу і сачыць за чысцінёй вадатокаў. На аснове маіх доследаў і доследаў маіх супрацоўнікаў я магу сцвердзіць, што паўднёва-ўсходняя Беласточчына параўнальна мае найчысцейшую ваду. Дык мы прапануем, а ваяводскія ўлады з намі згаджаюцца, што ў выдзеленых раёнах, непасрэдна прылеглых да рэк, скажам, над ракой Супраслю, трэба абмежаваць прымяненне штучных угнаенняў і іншых хімікатаў.

«НІВА»: Але ж без штучных угнаенняў няма сучаснай гаспадаркі!

ПРАФ. Б. ЧЭЧУГА: Не пярэчу, але не забывайце, што мы можам мець многа збожжа і бульбы, але што будзем піць?! Далёка ад азёраў і рэк, з якіх чэрпае ваду чалавек і жывёла, калі ласка — хаця б і 500 кг НПК на гектар! Але на прырачных дзялянках, на пры-

Працяг на стар. 4



*Ля вёскі Сідра ў Сакольскім павеце.*

*Фота В. Рудчыка*

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

(Працяг са стар. 3)




— А ёсць у вас бацькі? — спытаў пасажыр. Ён узрадаваўся, што нарэшце з'явілася тэма да размовы.

— Ёсць. Толькі не ў самым Навагрудку, а ў вёсцы. Маці там жыве.

— Даўно вы яе не бачылі?

Шафёр нічога не адказаў. І толькі, калі праехаў паварот, які тут называлі «цёшчыным языком», адклікнуўся:

— Гады два ці тры.

— Тады абавязкова трэба заехаць. Вось маці ўзрадуецца.

— Дорага мне гэта радасць абыйдзецца, — заявіў шафёр.

— Добра, што гэтага не чуе ваша маці, — не ўтрымаўся Іосіф ад заўвагі.

Памаўчалі.

— Там яшчэ два маіх браты жывуць. Жанатыя. Але ў мацеры часта бываюць. Дапамагаюць і ўсё іншае.

— Дык жа маці па далёкаму сыну смуткуе. Тыя ж побач.

Першы раз вадзіцель з такой павагай паглядзеў на свайго пасажыра. Той сядзеў у вугалку, хаваючыся ад ветру. Чарнявы ў рагавых акулярах. І трымаў на каленях біткам набіты пакламжай жоўты партфель. Перахапіўшы погляд шафёра, пачаў тлумачыць:

— Можа, думаеце, для важнасці яго нашу? У мяне ж сям'я, дачка. Тое ды сёе... не цягацца ж з авоськай.

Шафёр адвярнуўся.

— А я часта наведваю сваю маці, — вярнуўся раптам да ранейшай тэмы Янчанка. — У мінулым годзе прыехаў пагасцяваць да мацеры, а яна бух на стол пачастункі. Што б думалі? Ракі.

— Няўжо? — шафёр раптам нават трохі прыўзняўся з сядзення. — Страшна люблю ракі з піўцом.

— Я тожа. Слаўна пагасціў у мамы. Памятаю, адварыла яна маладой бульбачкі, паклала сала, абсыпала кропам — еш, дарагі сынок... Нарэзала свежых агурочкаў, абліла іх смятанай. Якраз у гэту пару гэта было, у канцы чэрвеня — пачатку ліпеня.

— А да ракаў нічога не падала? — пацікавіўся шафёр.

— Як гэта нічога? Усё было, як патрэбна. Спецыяльна да майго прыезду трымала ў склепе бутэлечку. І піва было. А як жа...

— Спаў, мабыць, у сене на вышках?

— Вядома. Такі пах цудоўны. Ляжаш і адразу заснеш. Раніцай прачнешся — птушкі спяваюць. Заходзіш у хату — на стале гарлачык з малачком, хлеб дамашні.

— Глядзі ты, — узрадаваўся шафёр, — мая маці таксама да майго прыезду хлеб пякла сама. Збяруцца браты з жонкамі і дзецьмі, кумаўё, суседзі. Пір гарой. А маці глядзіць на нас і радуецца.

Дарога павярнула ўлева, а другая, вузейшая, бегла да хат, якія мільгалі за дрэвамі справа.

— Мне сходзіць.

Машына спынілася. Пасажыр націснуў на ручку дзверцаў.

— Пачакай, — папрасіў шафёр. — І пачаў нешта шукаць у кішэні.

— Ты, дружа, прабач мне, — сказаўшы гэта, шафёр раскрыў шырокую далонь. На ёй ляжалі грошы. — Забяры, калі ласка, я ж цябе за піжона прыняў. Бакі, партфельчык... Калі б яшчэ з «раялем» да мяне папрасіўся, ні за што не павёз бы.

— Якім раялем?

— З транзістарам. Цярпець не магу гэтых музыкантаў. Нідзе не працуюць, а грашыма кідаюцца, як сваімі. Ну, будзь, здароў. Дарэчы, а колькі табе гадоў?

— Дваццаць тры. А што?

— Малады ты яшчэ. А словы гаворыш правільныя. Будзь здароў!

Дзверы зачыніліся.

— А да мацеры я абавязкова заеду, — крыкнуў з кабіны шафёр. Загудзеў матор, і хутка машына знікла за паваротам.

Іосіфу да дому заставалася метраў трыста. Ішоў дождж. Але Іосіф не звяртаў на яго ніякай увагі, ішоў проста па лужынах і разважаў аб тым, ці правільна зрабіў, што нагаварыў шафёру такога, чаго ніколі не было. Ніякай жа маці ў Іосіфа няма. Не памятае ён і бацькі. Вырас у дзіцячым доме. Але гэтая хлусня дала яму столькі нявыказнай радасці, што ён не мог устрымацца.

*Уладзімір Малашкевіч*

# СВЯТКАВАННЕ 50-АЙ ГАДАВІНЫ СССР

Адзначаюць 50-ую гадавіну СССР гурткі БГКТ і ЗМВ на Гайнаўшчыне. Адбываюцца конкурсы пад загалоўкам «Усё ведаю аб СССР», дэманструюцца кінафільмы на тэмы паасобных савецкіх рэспублік, праводзяцца сустрэчы з жыхарамі вёсак, якія ў апошні час наведалі Савецкі Саюз. І так, сваімі ўражаннямі з нядаўняй пабыўкі ў СССР дзяліўся настаўнік прафесіянальнай школы ў Гайнаўцы Юрка Славікоўскі. Выступаў ён у Белавежы, Махнатым, у гайнаўскім Доме настаўніка. Апрача расказа ён дэманстраваў каляровыя дыяфільмы. У вёсцы Вітава аб СССР расказалі на супольным маладзёжным сходзе жыхары гэтай вёскі Віктар Баравік і яго дачка Леакадзія. Кінафільмы аб СССР дэманстраваліся ў вёсках Ласінцы, Макаўцы, Койлах, Вітаве і па некалькі разоў у гайнаўскіх дамах культуры. Праўленне школьнага гуртка ЗМВ пры Лясным тэхнікуме ў Белавежы, а таксама іншыя гурткі БГКТ і ЗМВ арганізавалі навукова-папулярныя сесіі на тэмы: «Гісторыя ўзнікнення СССР», «Асвета, спорт, культура ў Савецкім Саюзе», «Навукова-тэхнічныя дасягненні ў Краіне Саветаў», «Польска-савецкае супрацоўніцтва ў перыяд існавання Народнай Польшчы».

Адбыўся конкурс пад загалоўкам «Ці ведаеш савецкую літаратуру?» ў асадзе Нараў. Гайнаўскі мастак Янка Салавянюк выступаў з цыклам лекцыяў на тэму савецкага жывапісу ў Ласінцы, Дубінах, Кляшчэлях, Гайнаўцы. БГКТ-оўцы і ЗМВ-оўцы прыступілі да чытальніцкага конкурсу «Што ведаеш аб гісторыі 50 гадоў СССР?» У клубах і святліцах зроблены выстаўкі і фотагазеткі, звязаныя са святкаваннем гэтай знамянальнай гадавіны. Гэтая тэматыка пераважае зараз на сходах маладзёжных гурткоў і ў рэпертуары мастацкіх аматарскіх калектываў.

✻

Па ініцыятыве гуртка ЗМВ у тэхнікуме сельскай гаспадаркі ў Бельску Падляшскім адбылася сустрэча з 86-гадовым настаўнікам-эмерытам Нестарам Перавоем — удзельнікам рэвалюцыйных падзей у Маскве ў 1917 годзе. Н. Перавой вельмі цікава расказаў прысутным аб змаганні з белагвардзейцамі і аб першых гадах існавання савецкай улады.

✻

Вечарына, прысвечаная 50-ай гадавіне СССР, адбылася ў клубе «Рух» у Супраслі. З дакладам на тэму развіцця літаратуры на працягу 50 гадоў існавання Савецкага Саюза выступіў навуковы работнік Варшаўскага ўніверсітэта др Аляксандр Баршчэўскі. Вечарына закончылася мастацкай праграмай. У супрасльскім клубе была адкрыта выстаўка беларускай кніжкі. (ця)

У НАВАГОДНІМ АБ'ЕКТЫВЕ



— Цыганка ўсю праўду табе скажа: што цябе чакае, хто любіць, а хто кахае...

*Фота Я. Цялушэцкага*

(Працяг са стар. 1)

# З вясковай хаты ў прафесары

рачных адхонах прымяненне штучных угнаенняў і гербіцыдаў абавязкова абмежаваць! Сялянам, «пакрыўджаным» такім абмежаваннем, трэба знайсці сродкі рэкампенсаты. А гэта ўжо справа адміністрацыі.

«НІВА»: Паважаны прафесар, год 1973 аб'яўлены Годам польскай навукі. Якія асноўныя праблемы з жыцця Беласточчыны па вашаму меркаванню перш за ўсё патрабуюць «вока» вучоных?

ПРАФ. Б. ЧЭЧУГА: Калі на Беласточчыне першынство даецца сельскай гаспадарцы, дык і вучоныя, так мне здаецца, павінны перш за ўсё звярнуць сваю ўвагу ў гэты бок. Трэба даследаваць хваробы аджывёльнага паходжання, усе станоўчыя і адмоўныя вынікі прымянення розных хімікатаў у сельскай гаспадарцы, бо яны, выпаласканыя дажджом, трапляюць у рэкі і вадасховішчы і там, залежна ад іх згушчанасці, або садзейнічаюць развіццю водарасцяў (глёнаў), або іх знішчаюць, што раптоўна зніжае колькасць кіслароду (тлену) ў вадзе. А без кіслароду няма жыцця і распаду арганічных астаткаў. Тут ужо пачынаецца роля нашага калектыву гідрабіёлагаў. Будзем таксама арганізатарамі навуковай сесіі мікрабіёлагаў і будзем прадаўжаць раней распачатыя доследы.

«НІВА»: Дзякуем за гутарку і жадаем далейшых поспехаў.

*Гутарыў: Віктар Рудчык*

◆ КУПЛЯЙЦЕ ◆
„БЕЛАРУСКІ КАЛЯНДАР"
НА 1973 ГОД!

Ужо выйшаў з друку «Беларускі каляндар» на 1973 год. Ён багаты па зместу, і кожны знойдзе ў ім нешта цікавае для сябе. Асабліва звяртаем увагу ўдзельнікаў цэнтральнага агляду БГКТ «Беларуская песня—72» (для дарослых і школьнай моладзі.) Усе ўдзельнікі, незалежна ад занятага месца, знойдуць у календары свой здымак.

Каляндар налічвае 272 старонкі і каштуе 15 зл. Можна яго набыць у аддзелах БГКТ, а таксама выпісаць у ГП БГКТ за паштовым залічэннем.

# Дуброўскія інвестыцыі

Дуброўшчына з году ў год мяняе сваё аблічча. З кожным годам прыбывае тут новых дарог, крамаў, пунктаў скупкі малака, усё больш вёсак пачынае карыстацца электрычным святлом і г.д. І так, да 1975 года ў Дуброўскім павеце будзе закончана будова новых дарог на адрэзках: Сухадаліна—Маева, Новы Двор—Сідра, Дубасьна—Рыгалоўка, Новы Двор—Бобра Вялікая.

Пакуль што многія сяляне карыстаюцца нафтавымі «капцілкамі», яны маглі толькі марыць аб электрычным святле. Але вось ужо ў бліжэйшыя гады да 800 сялянскіх двароў будзе падключана святло.

На вёсках Дуброўшчыны мала таксама тэлефонаў. Да канца гэтай пяцігодкі атрымае іх 35 вёсак.

З іншых інвестыцыяў прыбудзе павету 13 глыбінных (артэзіянскіх) студняў, 10 злеўняў малака; новыя крамы атрымаюць вёскі: Пакосьна, Няросьна і Дубасьна.

У не найлепшых умовах працуюць вясковыя цэнтры здароўя, а таксама раённая лекарская парадня. Сітуацыя гэтая зменіцца яшчэ ў гэтай пяцігодцы, калі ў Няросьне, Звярынцы Вялікім і Вольцы будуць адкрыты новыя цэнтры здароўя, а таксама будзе пабудавана новая раённая парадня ў самой Дуброве. (ця)

Наш Каляндар

## ВАЖНЕЙШЫЯ ГАДАВІНЫ Ў 1973 ГОДЗЕ

(У ДУЖКАХ: КОЛЬКІ МІНУЛА ГОД)

6.I.1913 нар. I сакратар ЦК ПАРП Эдвард Герэк (60).
21.I.1838 нар. Кастусь Каліноўскі (135).
1.II.1913 нар. беларускі пісьменнік Антон Алешка (60).
2.II.1943 перамога пад Сталінградам (30).
10.II.1898 нар. нямецкі пісьменнік Б. Брэхт (75).
18.II.1893 нар. беларускі пісьменнік Максім Гарэцкі (80).
19.II.1473 нар. Мікалай Капернік (500).
21.II.1848 з'явіўся «Камуністычны маніфест» (125).
22.II.1848 Вясна народаў (125).
23.II.1918 гадавіна нараджэння Савецкай Арміі (55).
I.III.1943 абвешчана ідэйна-праграмная дэкларацыя ППР (30).
14.III.1883 памёр Карл Маркс (90).
27.III.1923 нар. беларускі пісьменнік Алесь Рылько (50).
10.IV.1923 пам. польскі фальклярыст М. Федароўскі (50).
18.IV.1903 нар. беларускі пісьменнік Платон Галавач (70).
11.V.1883 нар. беларускі пісьменнік Янка Маўр (90).
14.V.1943 утварылася I дывізія імя Т. Касцюшкі (30).
27.VI.1913 нар. беларускі пісьменнік Юры Рудзько (60).
19.VII.1893 нар. Уладзімір Маякоўскі (80).
8.VIII.1893 нар. Марцэлі Навотка (80).
22.IX.1903 нар. беларускі пісьменнік Хвядос Шынклер (70).
25.IX.1913 нар. беларускі паэт Сяргей Грахоўскі (60).
29.IX.1823 нар. Уладзіслаў Сыракомля (150).
12.X.1943 бітва пад Леніна (30).
24.XI.1913 нар. беларускі пісьменнік Вісарыён Гарбук (60).
27.XI.1903 нар. беларускі пісьменнік Піліп Пестрак (70).
15.XII.1948 створана ПАРП (25).
24.XII.1798 нар. Адам Міцкевіч (175).
24.XII.1913 нар. беларускі пісьменнік Аляксей Кулакоўскі (60).
27.XII.1923 нар. беларускі паэт Анатоль Вялюгін (50).



© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

# ТРЫБУНА чытачоў

### ЗІМА

Ці помніш, мілы мой,
Запах летніх траў і хвой?..
Ці помніш, мілы мой,
Колькі багацця летам лес меў той?..

Пабач цяпер навокал
Усё закрыла белая павлока,
Усё мёрзне ды дрыжыць,
Усё хварэе, то ляжыць.

Ідзі ў лес, пабач,
Як тая елка скулена стаіць,
Як тая птушка хоча жыць,
Ідзі, можа, паможаш ты.

Ідзі і глянь
Угору і ўніз.
Убачыш: белы снег ляжыць.

*Юрка Краснапольскі, Нараўка*




### ЗІМА

Па восені наступае зіма,
Халодная пара года.
У гэты час многа птушак няма,
Ціхая стаецца прырода.

Замоўкне спеў птушак,
Яны ў цёплы край адляцелі.
З дрэў лісткі апалі,
Яны сумныя сталі.

Зямлю снег акрыў,
Акутаў дрэвы і кусты.
А з ім мароз прыйшоў,
Каб маляваць вокны.

Снег дарогі засыпаў —
Не даехаць, не прайсці.
Да сяла зайчык прыскакаў,
Шукаючы корму.

Ім найгорш у зіму,
Яны ў холадзе і голадзе.
Трэба ім насіць корму,
Ставіць будкі на палях.

У гэты час гаруюць птушкі,
Што застаюцца на зіму.
Трэба ім зрабіць кармушкі
І насыпаць корму.

Якая ж радасць ёсць у птушак,
Калі прыходзіць вясна.
Яны ведаюць, што надыходзіць
для іх
Лепшая пара.

*Ян Анацік, Бельскі ліцэй, клас Іа.*

### ЗІМА

Марозы зямлю закавалі,
Халодны вецер падувае,
Звяры ў норы пахаваліс,
Першы снег падае.

Ужо замёрзлі лужыны,
Сталі ад мароза.
Акрыліс снегам галіны
І бялеюць так прыгожа.

Дзень карацейшы стаў ад ночы,
Спахмурнела неба.
Дзеці цешаць свае вочы
Першым белым снегам.

А як прыйдзе карнавал,
Будзем весяліцца.
Запоўніцца цэлы зал,
Будзем радасцю дзяліцца.

*Верамеюк Анатоль, вуч. Іа класа Бельскага беларускага ліцэя.*

### ЗІМА

Зноў вярнулася зіма,
Пачала «гуляць» яна:
Вее вецер марозьны,
Вые, свішча, як грозьны.

Снег ляціць і ляціць,
Як быццам зачараваны.
Ўся прырода ўжо спіць,
І ўсе нібы паспаны.

А на шыбе ўсюды
Белыя кветкі відняць,
Маляваў іх мароз,
Калі ўсе пайшлі спаць.

*Міраслаў Бусловіч, пачатковая школа ў Аўгустове, клас VI.*

### ДОБРАЕ СУПРАЦОЎНІЦТВА

8.XII.72 года ў пачатковай школе ў Тапалянах адбыўся бацькоўскі сход. Па просьбе настаўнікаў на гэты сход прыехаў лекар з пункта аховы здароўя у Фальварках Сцяпан Кучынскі, які правёў размову з бацькамі аб стане здароўя вучняў і аб прафілактыцы — як павінны паступаць, каб зберагчыся ад хвароб. Бацькі ахвотна слухалі парад лекара.

*Мікола Краўчук, Патока*

### НАРАДА ДЗЕЯЧОЎ ПЦК

10 снежня мінулага года ў памяшканні павятовага і гарадскога аддзела ПЦК адбылася нарада настаўнікаў сярэдніх школ, апекуноў школьных гурткоў ПЦК. Настаўнікі падзяліліся сваімі дасягненнямі. Многа ўвагі прысвяцілі ганароваму донарству моладзі і яе барацьбе з алкагалізмам. Многія настаўнікі былі ўзнагароджаны дыпломамі і грашовымі ўзнагародамі.

*Мікола Краўчук, Патока*

### У ЛОКНІЦЫ

Вёска Локніца ў Бельскім павеце знаходзіцца ў самым цёмным кутку, бо і да ПКС-у пяць кіламетраў і да горада далёка. Аднак жыхары гэтай вёскі не падаюць духам. У вёсцы ёсць чатырохкласная школа, крама, электрычнае святло, праведзена камасацыя, гаспадары купілі сабе тэлевізары. Моладзь тут культурная, арганізавала мастацкі гурток. Выступае яна не толькі ў сваёй вёсцы, але і ў іншых вёсках, а нават і ў Бельску. За гэта атрымалі ўзнагароду — адаптар. У вёсцы існуе гурток гаспадынь, пра якіх не забыўся наш ГС у Бельску і дапамог арганізаваць курс варэння і пячэння, на які прызначана трыццаць гадзін навукі разам з практыкай. На гэты курс хадзілі амаль усе жанчыны вёскі. Кіраўніком курса была Тэрэса Акулова з Бельска. Дзякуючы ёй жанчыны навучыліся цікавым рэчам, якіх яшчэ ніколі не спатыкалі ў сваім жыцці. Скончыўся курс 10 снежня мінулага года. Усе жанчыны моцна дзякуюць ГС-у і кіраўніку курса, што пра нас не забылі.

Раім жанчынам, арганізуйце такі курс. Навукі за плячыма насіць не трэба.

*Тоня Барташук*




*Дарагое «Сэрцайка»!*

Мне споўнілася 16 год. Вучуся я ў другім класе сярэдняй школы. Штодзень даязджаю поездам у школу. Хаця мне цяжка было на сэрцы, я па сабе старалася гэтага не паказаць, але цяпер скажу табе, «Сэрцайка», шчырую праўду. Са мной даязджае вельмі многа сяброў, а адзін з іх, Янэк, мне падабаецца. Я з ім «хадзіла». Усё было б добра, каб не яго сябры. Аднойчы Янэк убачыў мяне сярод сяброў і сябровак. Ад гэтай пары ён вельмі змяніўся. Перастаў са мной ездзіць «сам на сам» як то было ўперш, але стараецца заўсёды быць там, дзе і я. Калі ўбачыць мяне з якім-небудзь калегам, стараецца каля нас быць. Я, гледзячы на паводзіны Янка, не магу яго зразумець і не ведаю, як я сама павінна паступаць. Мне яго вельмі шкада. Каб магла, то пачала б з ім усё ад пачатку. Я заўважыла, што Янэк злуецца на мяне, нават тады, калі які-небудзь хлопец да мяне адгукнецца, ці хаця скажа «чэсць». Цікава, што ты, «Сэрцайка», на гэта мне скажаш?

*Рэната з Гайнаўшчыны.*

Рэната! З лісту твайго вынікае, што твой хлапец вельмі зайздросны. Але магу цябе пацешыць, што зайздрасць найбольш мучыць самога зайздросніка. Ды й добрага «лякарства» на гэта няма. Найлепшы эфект тут дасць, па-мойму, размова з Янкам. Пастарайся выясніць яму, што вы маладыя, вучні. Тут жыццё калектыўнае неабходнае. Вы ж разам даязджаеце ў школу. Маеце сяброў і сябровак у школе, арганізуеце школьныя забавы, і вам, хаця вы адно другому падабаецеся, нельга ўцякаць ад сяброў і сябровак, зашывацца недзе ў куток цягніка. Гэта ж зусім неразумна. Мне здаецца, што Янэк зразумее сваю памылку і будзе ўсё добра.

*Сэрцайка*

### МОЙ ЭКСПЕРЫМЕНТ

Часта я бываю ў сваёй роднай вёсцы Кнаразы Бельскага павету. Прыкмеціў я, што тут амаль у кожнай хаце можна знайсці старыя кніжкі рэлігійнага зместу. Кніжак па сельскай гаспадарцы вельмі мала.

А давялося мне прачытаць вельмі цікавую кніжку В. Возняка « Ziemniaki i maszyny ». Купіў я 24 экземпляры гэтай кніжкі і паслаў 24-ом гаспадарам вёскі Кнаразы. З кніжкі В. Возняка гаспадары выбралі новыя спосабы пасадкі і апрацоўкі бульбы.

За 24 кніжкі я заплаціў 240 злотых, а за цэнтнер бульбы на рынку ў Бельску плацілі па 150 злотых. Адсюль вывад: на пакупку добрай кніжкі не трэба шкадаваць грошай.

І ці не варта, напрыклад, пры выплатах на пунктах скупкі заахвочваць сялян да куплі карысных кніжак?

*Нестар Перавой*

### НА ГМІННАЙ КАНФЕРЭНЦЫІ ПАРП



*Прэзідыум гміннай канферэнцыі ПАРП у Дубічах Царкоўных.*

10 снежня мінулага года ў Дубічах Царкоўных адбылася справаздачна-выбарчая канферэнцыя ПАРП Дубіцкай гміны. Мела яна ўрачысты характар, бо такая канферэнцыя — першая ў гісторыі новай гміны. Цяпер партыйная арганізацыя значна павялічылася( 126 членаў і 7 кандыдатаў). Пасля дакладу і дыскусіі адбыліся выбары гміннага камітэта ПАРП. У яго ўвайшлі 14 таварышаў. І сакратаром выбраны Мікалай Цімафеюк, II — Яўген Панфілюк і сакратаром прапаганды Васіль Сегень.

На заканчэнне канферэнцыі дэманстраваўся савецкі кінафільм.

*Мікалай Панфілюк*
*фота Уладзіміра Несцярука*



*Ажыўленая дыскусія была і ў часе перапынку.*

### Кансультацыя ЮРЫСТА

ПЫТАННЕ: Жыхар кааператыўнага дома аддаў адзін пакой у паднаймы. Наемца пакоя плаціць акуратна кватэрную плату і вядзе сябе належным чынам. Аднак гаспадар кватэры хоча ўзяць на кватэру сваяка, а наемца не хоча пакінуць пакоя. Ці можна патрабаваць ад наемцы пакоя, каб ён яго апаражніў.

АДКАЗ: Гаспадар кватэры можа згодна з законам дэнансаваць умовы найму — калі была яна заключана на азначаны час. Калі ж ва ўмове не было адзначана, на які час наемца заняў пакой, а кватэрная плата рэгулюецца раз у месяц, то дэнансаваць умову можна найпазней на месяц наперад, з тым, што тэрмін павінен кончыцца ў апошні дзень месяца. Прыкладам, калі хто хоча 15 лістапада ануляваць умову, то можа вызначыць тэрмін на 31 снежня. Пасля гэтага тэрміну можна патрабаваць апаражнення пакоя праз суд.




*Ірэна Кузьма, Аднога.* Баяцца нас не трэба. «Шчасце кахання» можам надрукаваць, аднак хацелі б пазнаёміцца і з іншымі вершамі.

*Сяргей Сцепанюк і Пётр Пракопчык, Бельск.* Вершы надрукуем, але горш з тэрмінам («надрукуйце чым хутчэй») — чарга вялікая.

*Сцёпа Палавянюк, Бельск.* Ваш «Фінал» вельмі нагадвае друкаваныя намі вершы на спартыўную тэму. Старайцеся не паўтараць іншых. З увагі на рэдкую тэму верш надрукуем.

*Мікола Краўчук, Патока.* Віншуем з добрым вершам пра п'янства. Надрукуем з прыемнасцю.

# КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Кляшчэлі**
„Czworokąt śmierci" (czeski), 9—10. „Dzikie dziecko" (franc.), 11—12. „Trzecia część nocy" (polski), 13—14.

**Нараўка**
„Wujaszek Wania" (radz.), „Wojenka, Wojenka" (węg.), 10—14.

**Нарва**
„Uciec jak najbliżej" (polski), „Krzyżacy" (polski), 10—14.

**Чыжы**
„Seksolatki" (polski), „Kaukazka branka" (radz.), 10—14.

**Дубічы Царкоўныя**
„Zbrodnia i kara" (radz.), „Jutro na orbitę" (radz.), 10—14.

**Арэшкава**
„Akcja Brutus", (polski), „Narkotyk" (franc.), 10—14.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**
„Tylko jeden telefon" (węgier.), „Królowa stacji benzynowej" (radz.), 10—14.

**Орля**
„Oficerowie" (radz.), „Umrzeć z miłości" (franc.), 10—14.

**Райск**
„Przygody misia Yogi (USA), „Przystań" (polski), 10—14.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**
„Siedemnasty równoleżnik" (franc.), 9—10, „Hełm Aleksandra Macedońskiego" (radz.), 11—12, „Tam gdzie rośnie czerwony bór" (jugosł.), 13—12.

**Шудзялава**
„Uciec jak najbliżej" (polski), „Morderca jest w domu" (węgier.), 10—14.

**Янаў**
„Poszukiwanie" (hiszpański), 12—14.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**
„Przez pustynię" (meks.), 9—10, „Zdobywcy nieba" (radz.), 11—12, „Ostatnia gra Karima" (radz.), 13—14.

**Мельнік**
„Żona dla Australijczyka" (polski), 9—10, „Polonez Ogińskiego" (radz.), 11—12, „Przez pustynię" (meks.), 13—14.

**Мілейчыцы**
„Tam, gdzie rośnie czerwony bór" (jugosł.), 9—10, „Sól ziemi czarnej" (polski), 11—12, „Trzy topole" (radz.), 13—14.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**
„Zabijcie czarną owcę" (polski), „Przez pustynię" (meks.) 10—14.

**Новы Двор**
„Przyjęcie" (radz.), „Zawsze w niedzielę" (polski), 10—14.

**Ніва**

**Organ Zarządu Głównego Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego**

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO 1-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem: Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23.

BZGraf. Nakład 7.163 K-1



© PDF: Kamunikat.org 2020
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

# З усёю душою

На Новы год прыйшоў да нас дворнік, каб скласці пажаданні. Мы сімпатызавалі яму, і мая Зося (мая жонка) пачала корпацца на кухні. Неўзабаве мы ўжо сядзелі за сталом. Я наліў у кілішкі гарэлкі:

— Вып'ем за нашы поспехі, за шчаслівы новы год.

— Чаму б не, — сказаў Антоні, — можна выпіць. У такі дзень нават трэба. Жадаю і вам усяго найлепшага.

Пасля трэцяга кілішка Антоні прыгладзіў вусы і сказаў:

— Вы такія гасцінныя, што і я мушу...

— Ды што вы, Антоні... — пачала мая Зося.

— Не, ведаю, што мушу. Вы да мяне з усім сэрцам, дык і я, — сцішыў голас і працягваў. — Рознае пра вас гавораць.

— Што гавораць? — я адчуў, што міжволі пачаў хвалявацца.

— Ну, як бы вам вытлумачыць, — Антоні красамоўна глянуў на парожні кілішак, які я ўміг напоўніў. Жыхары гавораць, што вы... — Антоні зрабіў нерашучы жэст.

— Не разумею, — сказаў я, — ледзь стрымліваючыся.

— Ну, проста. Гавораць у нас, што вы і жонка заўсёды добра апрануты, а дзеткі — як з іголачкі. А на гэта, вядома, грошы патрэбны...

— Я ж працую, — здзівіўся я.

— Мужа цэняць на рабоце як добрага спецыяліста, — уставіла Зося.

Антоні глянуў на нас з няскрытым спачуваннем і працягваў:

— Мне ўсё роўна, а вось людзі здзіўляюцца і гавораць. У нядзелю ходзіце пад ручку, дзеці ў вас выхаваны, старшым «дзень добры» гаворыць, вы часта прыносіце дамоў каробкі з пірожным, ніколі з вашай кватэры лаянкі не чуваць. Гэта здзіўляе людзей, яны кажуць, што на такую роскаш, ой як многа трэба!

Антоні добразычліва глядзеў на нас і цягнуў сваё:

— Мне, вядома, усё роўна. А вось перад людзьмі так нельга — зайздросцяць.

— Пане Антоні, — нервова сказала Зося. — Вы прыйшлі да нас у святочны дзень, таму і на стале больш, чым звычайна. Дзеці выхаваны, бо іх таго вучым, добра апрануты, бо сама шыю...

Антоні перахрысціўся і сказаў:

— Госпадзі, з вамі не можна размаўляць, я ж па дабраце... Кожны жыве як можа...

Пасля Новага года я купіў торт. Памятаючы Антоніевы пажаданні, нёс яго дамоў у кошыку з-пад бялізны.

*Э. Капчынскі*

*Сіла прывычкі...*

— *Запэўніваю вас, дзеці, што я зусім не Дзед Мароз...*

# НІЎКА

*Зноў перабльітаў.*

## ГУМАР З...

Прыйшоў да хаты валасны ўраднік ды пытае жонку гаспадара:

— А дзе ваш муж?

— Навошта ён вам?

— Няхай хутка збіраецца ў воласць, на вайну пойдзе цара-бацюшку бараніць.

— Эге! Яму няма калі, трэба грэчку касіць, — адказала жонка, — а то ваш цар з голаду здохне.

### СЫН

Перад домам старога дрывасека спыняецца раскошная машына. З яе выходзіць выдатна апрануты малады чалавек і накіроўваецца да дома.

— Бацька, — звяртаецца малады чалавек да старога, які выйшаў насустрач, — няўжо ты не пазнаеш мяне? Гэта я, твой сын, якога ты дзесяць год назад паслаў за тытунём у горад. Я застаўся там, знайшоў добрую работу, выгадна ажаніўся. У мяне свой дом, машына. Што ты на гэта скажаш?

— А дзе ж тытунь?

## МІНІБАЙКІ

### НЕ ЎСЁ ГЛАДКА

— У жыцці не ўсё гладка! — разважаў п'яны заяц, спатыкаючыся аб карчы.

### КОТ

— На мышы свет клінам не сышоўся! — гаварыў кот, уплятаючы каўбасу.

### АДСТАЛАСЦЬ

Авадзень смяяўся з кабылы:

— Адстала ты ад моды: хвост абрэж!

*Павел Шыбут.*

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

*Па просьбе Ані Багройскай з Беластока змяшчаем рускую песню*

## ЕДУТ НОВОСЁЛЫ

Родины просторы, горы и долины,
В серебро одетый зимний лес грустит.
Едут новосёлы по земле целинной,
Песня молодая далеко летит.

*Припев:*
Ой ты, зима морозная,
Ноченька яснозвёздная!
Скоро ли я увижу
Мою любимую в степном краю?
Вьётся дорога длинная,
Здравствуй, земля целинная!
Здравствуй, простор широкий,
Весну и молодость встречай свою!

Заметут метели, затрещат морозы,
Но друзей целинных нелегко сломить.
На полях бескрайних вырастут совхозы,
Только без тебя немножко грустно
будет жить.

*Припев.*
Ты ко мне приедешь раннею весною
Молодой хозяйкой прямо в новый дом.
С голубым рассветом тучной целиною
Трактора с тобой мы рядом поведём!
*Припев.*

### Талаваломка

| | | | |
|---|---|---|---|
| | | | |
| | | | |
| | | | |
| | | | |

У клеткі квадрата ўпішыце лічбы ад 1 да 8 (лічбы паўтараюцца двойчы) такім чынам, каб:

Сума лічбаў па гарызанталях, па вертыкалях і двух дыяганалях склала 18.

Сума лічбаў любога квадрата, створанага з чатырох клетак, склала 18 (такіх квадратаў 9).

Сума лічбаў, якія акажуцца ў вуглах вялікага квадрата, склала 18.

Лічбы ў адным радзе не павінны паўтарацца.

*

*Адказ на заданне з папярэдняга нумара:*

### ПРАЎДА

— Гэта праўда, мілая, што ты сама гатуеш мужу абед?

— Так, але толькі, калі я на яго сярдзіта!

### ХВОРЫ

Хворы быў пры смерці, і ўрач вырашыў яго падбадзёрыць:

— Пульс нармальны, сэрца і лёгкія ў парадку, тэмпература знізілася...

— Вельмі добра, — перапыніў яго хворы, — значыць, я паміраю здаровым.

### ПААБЯЦАЎ

На ўроку пісьма настаўніца падышла да маленькага Юркі і сказала:

— Нешта сёння, Юрка, у цябе почырк сапсаваўся.

— Нічога, прыйду дадому — адрамантую, — адказаў Юрка.

— *Ну, а цяпер давай вырашым, хто ў нас будзе галавой!*

### КАЎБОЙ

У салун аднаго з маленькіх гарадкоў Арызоны ўрываецца шчуплы каўбой з вачыма, налітымі крывёю, і пагражальна крычыць:

— Хто афарбаваў майго каня ў зялёны колер?

Ад стойкі бара адыходзіць высачэзны каўбой:

— Я. Што ты яшчэ хацеў сказаць?

Шчуплы каўбой, адступаючы, мармыча:

— Я прыйшоў сказаць, што фарба ўжо высахла...

### АЗЕРБАЙДЖАНСКІЯ ПРЫКАЗКІ

Бойся восені — за ёю зіма; не бойся зімы — за ёю вясна.

*

Усе беды чалавека — ад яго языка.

*

Пры добрым суседзе і сляпая дачка ў дзеўках не заседзіцца.

*

Арбу не конь вязе, а ячмень.

*

Багаты і дурань робяць тое, што хочуць.

*

Калі б ад вады прыбаўляліся сілы, жаба стала б веліканам.

### ЧАГО Ў СПОРЦЕ НЕ БЫВАЕ!

— *Няўжо вы можаце вось так, нізавошта, ударыць незнаёмага чалавека?..*

## Курёзы

### «БАРАДА» СЕЙУ ІЕНГАЯ

Гэты тайландскі селянін даверае сваім пчолам, а тыя, відаць, адплачваюць яму тым жа. Іенгай лічыць, што яго «барада» большая, чым у аднаго індыйскага пчаляра, які лічыць сябе чэмпіёнам. Дослед не такі просты і бяспечны, як можа паказацца, бо калектыўны ўкус чымсьці нечакана ўстрывожанага рою пчол можа аказацца смяротным.

### ДЭЛЬФІНЫ «РАЗМАЎЛЯЮЦЬ»

Дэльфіны падаюць мноства гукаў, якія мы ўспрымаем як скрып, свіст, піск, трэск. Назіранні за паводзінамі дэльфінаў паказалі, што многія з гэтых сігналаў, відаць, служаць ім для сувязі адзін з адным. Дэльфіны «з задавальненнем» вядуць гутаркі ў моры і нават па тэлефоне — такія доследы былі праведзены вучонымі. Але калі «субяседніка» на другім канцы тэлефоннага проваду замяніць магнетафонным запісам, то дэльфін адразу заўважае гэта і перастае «размаўляць».

## Смяюся з намі

**Перш чым пазычыць у сябра грошы, падумай: што табе больш патрэбнае.**

© PDF: Kamunikat.org 2020